Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by

Выдаецца са снежня 1994 года

Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК. Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

4 (564) 27 студзеня 2011 года. Кошт свабодны.


Photo ByMedia.net

Ïîëàöê³ ðà¸í

# Íàïåðàäçå àá'ÿäíàííå?

■ Станіслаў Раманчук

**Настолькі інтэнсіўна будаваўся і рос апошнім часам адзін з цэнтраў айчыннай нафтахіміі – горад Навапалацк, што яго аддаленыя ўскраіны ўжо ўшчыльную наблізіліся да старажытнай культурнай сталіцы Беларусі – Полацка.**

Ужо зусім хутка праз новы мост на рацэ Дзвіне гэтыя два гарады могуць злучыцца разам. Таму ў Віцебскім аблвыканкаме з новай сілай узнавіліся размовы аб аб’яднанні гэтых двух гарадоў у адзін. Такая ідэя ўзнікала яшчэ раней, а цяпер прыхільнікаў прыбавілася. Па-першае, суседнія гарады з-за новых мікрараёнаў сталі блізкімі, як ніколі. Мясцовы дзяржуніверсітэт стаў Полацкім, хоць яго асноўныя вучэбныя карпусы і студэнцкія інтэрнаты размешчаны ў нафтаградзе. Самае галоўнае, аб’яднанне ў адзін горад, канешне ж, дазволіць зэканоміць вялікія сродкі на ўтрыманне структур упраўлення і гарадской гаспадаркі. Аб”яднаўшыся, Полацк з насельніцтвам каля 190 тысяч чалавек стане адным з самых вялікіх і багатых гарадоў краіны, што дазволіць больш эфектыўна развівацца. Праўда, без падтрымкі такой задумы пераважнай большасцю насельніцтва з абодвух гарадоў яе рэалізаваць не атрымаецца. Калі да гэтага дойдзе справа, то рашэнне можа быць прынята шляхам народнага рэферэндуму.




Ãëûáîöê³ ðà¸í

# Çàÿâàê áîëüø, ÷ûì ïàë³âà

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам насельніцтва глыбінкі адчувальна паменшылася, але яшчэ цяжэй, чым раней, стала для вяскоўцаў і ўладальнікаў дамоў у малых гарадах запасацца палівам на халодны перыяд года.**

Не стаў выключэннем і Глыбоцкі раён, дзе багатыя лясныя масівы і дапамагаюць насельніцтву вырашаць праблему нарыхтоўкі дроў мясцовы лясгас і **Дзвінская эксперыментальная база лесу.** Аднак недахоп бюджэтных сродкаў на пакрыццё датацый на паліва, як і ў суседніх раёнах, малыя магутнасці торфабрыкетных заводаў-партнёраў, не дазволі мясцоваму прадпрыемству па паліву задаволіць усе паступіўшыя яшчэ летась заяўкі на набыццё паліва. Ды і зімы сталі халаднейшыя, чым былі яшчэ некалькі гадоў назад. У выніку амаль 700 чалавек чакаюць у райцэнтры, калі ім прывязуць дровы па чарзе. У сельскай мясцовасці такая чарга істотна вырасла і ў сельсаветах, дзе састарэўшым людзям самім нарыхтаваць і прывезці дроў з лесу не хапае сіл. Нічога не застаецца жыхарам краю, як чакаць каля года, калі вырашыцца іх праблема. Праўда, на гэты год філіял прадпрыемства па паліву з Глыбокага разлічвае адтрымаць ад торфабрыкетных заводаў 12 тысяч тон брыкету, а летась гэтага паліва атрымалі на 4 тысячы тон менш.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ç äðýâàì íà “òû”

■ Чэслаў Якубовіч

**У адрозненне ад іншых раёнаў вобласці, Пастаўскі мае і сваю досыць развітую прамысловасць, вядучай галіной якой з’яўляецца дрэваапрацоўка.**

Яшчэ пасля вайны пачаў тут дзейнічаць дрэваапрацоўчы камбінат у Варапаеве, нядаўна паўсталі два буйныя прыватныя мэблевыя цэнтры. Сярод іх трывалую нішу цяпер займае і прадпрыемства “Паставымэбля”, якое адзначыла 30-годдзе свайго стварэння, з нагоды чаго ў райцэнтры адбыліся ў Палацы культуры юбілейныя ўрачыстасці. За савецкім часам спачатку з’явіўся спецыялізаваны завод па вытворчасці вучэбнага абсталявання па чарчэнні і маляванні, на якім пачалі выпускаць і школьную мэблю. Потым прадпрыемства перажыло эканамічны крызіс, а зараз пастаўчане адны з лепшых у Беларусі па якасці, дызайну і дасканаласці бытавой і офіснай мэблі. На прадпрыемстве пачалі маштабнае тэхпераўзбраенне і пераасначшчэнне сучаснымі станкамі замежнай вытворчасці. Асартымент мэблевай прадукцы перавысіў 200 найменняў, захоўваючы разумны баланс цаны і якасці. На айчынных конкурсах менавіта мэблю з Пастаў прызналі лепшай у краіне для вучэбнага працэсу, дзіцячых садкоў, інтэрнатаў і для бібліятэк, паколькі парты сталі рабіць, як на Захадзе, з рэгулюемай нахільнай паверхняй. На гэту прадукцыю ўстойлівы попыт, з такой мэбляй выйшлі і на замежныя рынкі.

Íàäâîð’å ¢ Ãëûáîê³ì www.rp5ru

| | чацвер 27.01.11 | | | | пятн. 28.01.11 | | | | сб. 29.01.11 | | | | нядз. 30.01.11 | | | | пн.31.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °C | -7 | -12 | -11 | -12 | -13 | -15 | -12 | -11 | -9 | -9 | -8 | -9 | -5 | -4 | -3 | -7 | -10 | -13 | -11 |
| Ціск, мм | 744 | 748 | 750 | 753 | 754 | 754 | 754 | 754 | 753 | 750 | 748 | 744 | 741 | 740 | 742 | 746 | 750 | 751 | 752 |
| Вільготнасць, % | 94 | 87 | 87 | 94 | 89 | 90 | 81 | 81 | 85 | 86 | 84 | 84 | 90 | 90 | 88 | 87 | 85 | 87 | 86 |
| Вецер м/сек | С 4 | С-В 3 | С-В 3 | С-В 2 | З 1 | Ю-З 3 | З 4 | З 4 | З 5 | З 5 | З 6 | З 7 | З 7 | С-З 7 | С-З 7 | С 6 | С 4 | С-З 2 | З 2 |
| | | 08:10 | 16:35 | | | 08:08 | 16:37 | | | 08:07 | 16:39 | | | 08:05 | 16:41 | | 08:03 | 16:43 | |
| | | 02:23 | 10:29 | | | 03:42 | 11:03 | | | 04:52 | 11:49 | | | 05:47 | 12:47 | | 06:30 | 13:55 | |

# Лічба нумара

**600** *тыс. тон* – столькі калійных угнаенняў паставіць у Кітай да 30 чэрвеня 2011 года ЗАТ “Беларуская калійная кампанія” па першым падпісаным сёлета кантракце з буйнымі кітайскімі кампаніямі Sinochem і CNAMPGC. Беларусам удалося дамовіцца аб цане такіх паставак 400 долараў/тона (на 50 $ больш, чым летась), але на ўмовах пастаўкі ў порт пакупніка. Перад гэтым летась перамовы з кітайцамі былі напружанымі і доўгімі, і тады аб’ёмы гадавых паставак на ўмовах пагрузкі ў порце склалі 1,2 млн. тон і з іх 40 % паставак складалі аб’ёмы расійскіх угнаенняў кампаніі “Уралкалій”, якая таксама ўваходзіць у БКК.

На чарзе заключэнне буйнога кантракта з яшчэ адным стратэгічным іграком на гэтым рынку калію – Індыяй. Аднак наша краіна яшчэ раней зрабіла вызначальны крок па выбары для сябе асноўнага стратэгічнага партнёра і інвестара менавіта на далёкім Усходзе – гэта Кітай. Яшчэ напрыканцы 2009 года кіраўнікі абодвух дзяржаў дамовіліся ў Пекіне аб адкрыцці крэдытнай кітайскай лініі для Беларусі на 15 млрд. долараў, з якіх 1 мільярд – ільготны крэдыт. Вось толькі такі факт належыць успрымаць адэкватна, паколькі такія грошы– гэта не прамыя замежныя інвестыцыі, якія не трэба вяртаць заёмшчыку. Кітайскія інвестыцыі на гэту суму на 15-20 гадоў з адтэрміноўкай першага плацяжа да 6 гадоў пад 2-3% гадавых – гэта так званыя звязаныя крэдыты.

Кітайскі партнёр патрабуе ад нас набываць выключна кітайскае абсталяванне, не заўсёды самае сучаснае і прагрэсіўнае, а таксама аплочваць працу кітайскіх рабочых і будаўнікоў, якія будуць ўзводзіць жылы комплекс у беларускай сталіцы ля “Мінск-Арэны”, гатэль “Пекін”, весці мадэрнізацыю Мінскай ТЭЦ-% і іншых аб’ектаў энергетыкі. Беларусам у такой сітуацыі прыйдзецца адмовіцца ад рэалізацыі падобных праектаў з еўрапейскімі кампаніямі і ў нас хапае сучасных бударганізацый, якія могуць узводзіць аб’екты экстра-класу, тыпа Нацыянальнай бібліятэкі і іншых.

Праўда, кітайцы не звяртаюць увагу на заходнія стандарты дэмакратыі і на знешнепалітычны фон вакол Беларусі, калі зараз існуе пэўная няўпэўненасць на ўсіх узроўнях у развіцці далейшых адносін з ЕС, ЗША і той жа Расіяй. Наша краіна, пакуль не ўдалося падпісаць пагадненні аб пастаўках у РБ расійскай нафты, ужо вырашыла павысіць з 1 лютага тарыфы на транспарціроўку яе сыравіны ў напрамку Еўропы на 12,5%, так і па пастаўках нафты на беларускія НПЗ. Уступленне хуткае Расіі ў СГА, хутчэй за ўсё, выкліча з’яўленне новых гандлёвых супярэчнасцей паміж саюзнікамі.

Кітайцы, наадварот, гатовы супрацоўнічаць з намі на аснове 7 рамачных пагадненняў, якія прадугледжваюць рэалізацыю 89 інвестпраектаў у сферах энергетыкі, будаўніцтва, прамысловасці, дарожна-транспартнай інфраструктуры. З дапамогай кітайцаў паўстане ў РБ Кітайска-беларускі індустрыяльны парк, завод цэлюлозы ў Светлагорску і прадпрыемствы індустрыяльнага домабудаўніцтва і кальцыніраванай солі. Вось толькі каб якасць гэтых работ, выкананых імі, заставалася высокай. А вось павелічэнню узаемнага гандлю і прамых замежных інвестыцый з боку іншых замежных краін перашкаджаюць шэраг палітычных фактараў і адміністрацыйных бар’ераў.

Правільна зазначыў днямі на нарадзе ў Светлагорску накнот далейшых замежных даўгоў новы кіраўнік урада Беларусі Міхаіл Мясніковіч. Па яго словах, за апошнія 3 гады знешні доўг краіны вырас у 10 разоў і наблізіўся да парога нацыянальнай бяспекі. У такой сітуацыі нічога не застаецца, як жыць па сродках, бо гэтыя даўгі трэба будзе аддаваць з працэнтамі. Таму і з кітайцамі трэба супрацоўнічаць удумліва толькі пад добрыя праекты, якія будуць даваць аддачу і дазволяць нам вярнуць даўгі. Большасць жа беларусаў жыць у доўг не прывыкла, як і зацягваць паясы пры правядзенні неабходных для краіны рэформ.

## Äçåíü çà äí¸ì

**Гэты год пачаўся для прадпрыемстваў і беларускага бізнесу з новага непрыемнага павышэння цэн на прыродны газ і тарыфаў на электраэнергію, з 15 лютага 2010 года яны выраслі больш чым на 53 %. Для насельніцтва зноў павысіліся цэны пакуль на гарэлку і на цыгарэты. Ва ўрадзе Беларусі паабяцалі, што сёлета ў краіне не будзе масавых звальненняў і ўсплёску беспрацоўя. 31 студзеня міністры замежных спраў ЕС на сваёй сустрэчы ў Бруселі вырашаць, якімі будуць далейшыя адносіны аб'яднанай Еўропы з Беларуссю, беларуская тэматыка пасля выбараў актыўна абмяркоўваецца ў свеце.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**Туніс.** Абураны галечай і карупцыяй народ краіны зверг шматгадовага Прэзідэнта-дыктатара Бена Алі, які ўцёк у Саудаўскую Аравію і прыхапіў з сабой 1,5 тоны золата.

**Судан.** У буйнейшай краіне Афрыкі пасля прайшоўшага рэферэндуму ўтварыліся дзве дзяржавы– Паўночны Судан з мусульманамі і Паўднёвы Судан з неграмі-хрысціянамі.

**Бразілія.** Краіна моцна пацярпела на многія млрд. $ пасля самага сур'ёзнага прыроднага бедства – наваднення і апоўзняў зямлі, у выніку якіх загінула каля 700 чалавек .

**Іспанія.** Падчас рабочага візіту намеснік старшыні Дзяржсавета КНР Лі Кецян паабяцаў яшчэ на 6 млрд. USD скупіць іспанскіх дзяржаўных аблігацый па існуючых даўгах.

**ЗША.** Праз 30 гадоў пасля пакушэння на Прэзідэнта Р. Рэйгана ў краіне зноў зафіксавалі палітычнае забойства людзей і спробу пакушэння на дзеяча Кангрэса Габрыэль Гіффардс.

**Германія.** Пасля выяўлення ў корме для кур дыяксіну з мэтай бяспекі па краіне закрылі часова 4,7 тысяч ферм, якія займаюцца вырошчваннем птушкі, свіней, бычкоў і цёлак.

**Алжыр.** Пасля росту ў краіне імпартных цэн на харчаванне ў шэрагу алжырскіх гарадоў прайшлі масавыя хваляванні і сутычкі насельніцтва з сіламі аховы правапарадку.

**Іран.** Суд у Тэгеране прызнаў маладую журналістку і праваабаронцу Шыву Ахары вінаватай у "вайне супраць Алаха" і прыгаварыў яе да 4 гадоў турмы і 74 удараў бізуном.

**Турцыя.** Кіраўнік урада Рэджэп Эрдаган аддаў палітычны загад знесці ў горадзе Карс быццам нязграбны з меркаванняў эстэтыкі 30-метровы помнік сяброўства з армянамі.

**Бразілія.** Першая жанчына-Прэзідэнт 63-гадовая Дзілма Роусеф паабяцала захаваць ранейшы эканамічны курс краіны, пры ім 20 млн. бразільцаў змаглі выраторвацца з беднасці.

**Літва.** У порт Клайпеды з першага рэйса ў Бразілію вярнуўся першы беларускі карабель "Катарына", Белмарфлот арэндаваў яго ў Харватыі, ён належыць на 70% фірме "Цэптэр".

**Канада.** Вучоныя з універсітэта Калгары пацвердзілі, што сусветнае глабальнае пацяпленне працягнецца тысячу гадоў, яго не спыніць і поўная забарона выкіду газаў.

**Румынія.** Сёлета арнітолагі выявілі 6-ты ў свеце факт масавай гібелі шпакоў пасля атручэння гарэлкай, раней птушкі гінулі ў ЗША, Турцыі, Італіі, Канадзе і Швецыі.

**Казахстан.** Урад краіны распрацаваў праграму развіцця казахскай мовы, якой да 2020 года павінны свабодна валодаць 95 % жыхароў, пакуль яе ведаюць толькі 64 % грамадзян.

**Японія.** Краіна выйшла на 1-е месца ў свеце па колькасці доўгажыхароў: больш за 40 тысяч японцаў пераадолелі жыццёвы рубеж 100 і больш гадоў, у свеце 70 чалавек старэйшыя за 110 г.

## Áåëàðóñü — ó ë³êó ë³äàðà¢ ðýéòûíãó êðà³í ç ñàìûì íåäàñòóïíûì æûëë¸ì



Беларусь заняла чацвертае месца ў рэйтынгу краін з самай недаступнай жылой нерухомасцю. Пра гэта гаворыцца ў даследаванні міжнароднай кампаніі Evans.

Паводле даследавання, сярэдні кошт кватэры ў Беларусі складае 90 тысяч еўра пры сярэднім гадавым даходзе сям'і ў 3203 еўра. Такім чынам, сярэднестатыстычнаму беларусу трэба збіраць на нерухомасць 28,1 год.

Даўжэй за ўсё (67,5 гадоў) адкладаць сродкі на кватэру давядзецца жыхарам Марока. Сярэдні кошт жылой нерухомасці ў гэтай афрыканскай краіне складае 144 800 еўра, а сярэдні гадавы даход сям'і знаходзіцца на ўзроўні 2145 еўра. На другім месцы размясціўся Пакістан, дзе набыць кватэру можна праз 40,6 гадоў працы. Сярэдні кошт жылля тут складае 74 953 тысячы еўра, сярэдні гадавы даход — 1846 еўра.

Замыкае тройку лідараў Чарнагорыя, дзе сярэдні кошт кватэры складае 151 155 тыс. еўра, а сярэдні даход — 5038 еўра. Набыць жыллё чарнагорац можа, адкладаючы зарплату на працягу 30 гадоў.

Расія ў рэйтынгу заняла пятае месца. Паводле даследавання, сярэдні кошт кватэры ў Маскве складае 303 151 тысячы еўра пры сярэднім гадавым даходзе сям'і ў 11 615 еўра. У рэгіёнах гэтыя паказчыкі складаюць 64 102 тысячы і 3080 еўра адпаведна. Такім чынам, сярэднестатыстычнаму расійцу трэба збіраць на нерухомасць 26,1 год.

Найбольш даступная нерухомасць знаходзіцца ў ЗША. Пры сярэднім кошце жылля ў 95 536 тысяч еўра, сярэдні гадавы даход сям'і складае 35 384 тысячы еўра. Такім чынам, набыць кватэру амерыканец можа ўжо праз 2,7 гады працы. На другім месцы — Дамініканская Рэспубліка, грамадзянам якой для куплі жылля сярэднюю зарплату трэба адкладаць на працягу 3,5 гадоў (кошт жылля — 33 516 тысячы еўра, прыбытак — 9576 еўра). Трэцюю пазіцыю займае Чылі з паказчыкам у 4,05 гады (сярэдняя цана кватэры — 45 794 тысяч еўра; гадавы даход — 11 307 тысяч еўра).

На чацвертым месцы апынулася Швецыя (4,2 гады). Сярэдняя цана кватэры тут складае 119 536 тысяч еўра, сярэдні даход — 28 461 тысяч еўра. Бельгія замыкае пяцёрку лідараў з паказчыкам у 4,3 гады (сярэдні кошт жылля — 121 723 тысяча еўра, прыбытак сям'і — 28 307 тысяч еўра).

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** Новы кіраўнік Камітэта дзяржкантролю РБ Аляксандр Якабсон заявіў пра шкоду існуючых у абласцях забарон на ўвоз і рэалізацыю прадукцыі з іншых рэгіёнаў Беларусі.

**Гомель.** На працягу паўсутак пасля пажару на трансфарматарнай падстанцыі мэблевай фабрыкі "Прагрэс" былі без электрычнасці прадпрыемства і паўсотня прыватных суседніх дамоў.

**Мінск.** Ажыятажны попыт насельніцтва на валюту ў 2010 годзе прызнаў старшыня Нацбанка РБ П. Пракаповіч, летась з рэзерваў прыйшлося прадаць больш за 1,5 млрд. USD.

**Смаргонь.** Раённы суд за падлог і сакрыццё гібелі 176 цялят прыгаварыў да 1,5 гадоў турмы адразу 3-х спецыялістаў СВК "Ракаўцы",праўда, з адтэрміноўкай прыгавору на год.

**Мінск.** Дадатковая праверка абласной пракуратуры так і не выявіла дакладных магчымых матываў самазабойства (забойства) на сваёй дачы вядомага журналіста Алега Бябеніна.

**Шклоў.** У мясцовую калонію ўзмоцненага рэжыму перавялі экспракурора Мінскай вобласці Міхаіла Снегіра, ён асуджаны на 7 гадоў, але не пісаў прашэнне аб памілаванні.

**Мінск.** Па гучнай справе аб беспарадках у сталіцы абвінавацілі ўжо 25 чалавек, з іх 2-х грамадзян Расіі, у спісе падазроных яшчэ 14, сярод іх экс-кандыдаты Р. Кастусёў і Д. Ус.

**Жодзіна.** Услед за Венесуэлай інтарэс да набыцця БелАЗа, на якім працуе 11 тысяч чалавек, праявіў адзін з буйнейшых у РФ Краснаярскі завод цяжкага машынабудавання.

**Магілёў.** На падпітку надвячоркам на праваслаўныя Каляды 22-гадовая гараджанка зарэзала нажом сваю 55-гадовую маці-пенсіянерку і яе сужыцеля, на 4 гады маладзейшага.

**Стоўбцы.** З-за адсутнасці сродкаў музей Я. Коласа пакінуў без дроў і торфабрыкету свой філіял на хутары Ласток, дзе песняр пражыў у хаце-музеі з 1885 года 5 гадоў .

**Барысаў.** У рэдакцыі незалежнай рэгіянальнай газеты "Борисовские новости" пасля вобыску забралі ўсю камп'ютарную аргтэхніку, нават прынтар з тэлефонам-факсам.

**Гомель.** Нібы ў крутым баевіку вечарам з моста на слізкай дарозе з вышыні 12 метраў на чыгунку зваліласяіншамарка, яе вадзіцель і пасажыр атрымалі вельмі цяжкія раненні.

**Мінск.** Як і чакалася, на тэлеканале АНТ закрылі дзве праўдзівыя праграмы С. Дарафеева "Выбар" і "Выбар+", чыноўнікі спынілі працу і ЗАТ "Аўтарадыё" за "экстрэмізм".

**Мінск.** Так і не закінуў ніводнай шайбы на VII Калядным міжнародным хакейным турніры А. Лукашэнка, але аддаў 11 галявых пасоў, у фінале яго каманду абыграла Расія.

**Баранавічы.** У мясцовым лядовым палацы звольнілі 4-га па ліку дырэктара, бо за першы год працы даўгі арэны склалі 355 тыс. $, яе перадалі на баланс гарадскога аддзела спорту.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** На рэалізацыю прыдуманай А. Косінцам праграмы "500" (аграсядзіб, азёр, прыдарожных кафэ) спатрэбіцца 15 трлн. рублёў інвестыцый, дзе браць грошы на іх?

**Лёзна.** Праверка пракуратуры выявіла ў вёсцы Парамонт пляцоўку для выгулу жывёлы, якую зрабілі на адлеглсці менш за 30 метраў ад артэзіянскай крыніцы чыстай вады.

**Віцебск.** На мясцовым маторарамонтным заводзе пачалі выпускаць самаходны апрыскавальнік для рапсу "Ібіс", такія машыны паступяць сёлета ў кожны раён вобласці.

**Чашнікі.** Незадавальненне гараджан выклікала прапанова кіраўніцтва вобласці аб пераймінаванні раёна ў Новалукомльскі і перанос яго цэнтра ў горад энергетыкаў.

**Паставы.** Шэраг вырабаў мясцовага малочнага завода зноў удастоіліся ганаровага звання "Лепшыя тавары 2010 года Рэспублікі Беларусь", яго сыры прызнаны лепшымі і ў Расіі.

**Глыбокае.** На сустрэчы ў касцёле св. Ганны ў вёсцы Мосар святары мясцовага дэканата вырашылі сабраць грошы (9млн. рублёў) на надмагільны гранітны помнік кс. Ё. Бульку.

**Лёзна.** Жыхар райцэнтра ва ўзросце 42 гады рашыўся на дзікунскі ўчынак і скраў з мясцовага храма царкоўны інвентар, але быў ноччу затрыманы міліцыяй.

**Орша.** Міліцыя затрымала траіх мужчын, якія прызналіся ў крадзяжах з селекцыйнага цэнтра 14 парасят, якіх потым прадалі жыхарам Дубровенскага раёна.

**Віцебск.** Судовыя выканаўцы апісалі маёмасць ТАА "Будлайнер", фірма-банкрут мае доўг былым рабочым 60 млн. рублёў зарплаты, але з ёй не разлічыліся раёны за работу.

**Расоны.** Супрацоўнікі райаддзела міліцыі канфіскавалі 19 тон бульбы, якія 32-гадовы жыхар Брэсцкай вобласці без суправаджальных дакументаў вёз на продаж у Расію.

**Полацк.** Пры падтрымцы консульства Латвіі ў гарадской мастацкай галерэі адкрыліся адразу дзве фотавыставы пра перамены ў гэтым рэгіёне Балтыі і на ўзбярэжжы мора.

**Сянно.** За паўгода працы вучні СШ №2 пад кіраўніцтвам настаўніка-краязнаўцы Васіля Бандарэвіча зрабілі копіі даспехаў воінаў Кіеўскай Русі са шчытамі-гербамі іх гарадоў.

**Глыбокае.** Чарга на дровы ў мясцовым філіяле УП "Віцебскаблпаліва" дасягнула амаль 680 чалавек, толькі ў сакавіку ўдасца задаволіць яшчэ леташнія заяўкі тысячы чаргавікоў.

**Віцебск.** Пасля ўмяшання абласных улад Палац спорту пачаў вяртаць усім гледачам грошы за білеты на сарваныя прадстаўленні расійскага цырка.

**Навапалацк.** Ганаровы грамадзянін горада, архіепіскап Полацкі і Глыбоцкі Феадосій назваў самай высокай сваёй узнагародай прэзідэнцкую прэмію "За духоўнае адраджэнне".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ **Кліменцій Кожан,**
м. Германавічы

# Таленавіты гісторык і краязнаўца

## Генадзю Каханоўскаму – 75

**Спаўнілася 75 гадоў з Дня нараджэння таленавітага беларускага гісторыка, археолага, фалькларыста, літаратуразнаўца і краязнаўца Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага. Нарадзіўся ён 8 студзеня 1936 года ў вёсцы Дамашы Маладзечанскага раёна. У 1963 годзе скончыў Маскоўскі педагагічны інстытут. З 1964 года – супрацоўнік, намеснік дырэктара, дырэктар Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.**

У 1979 годзе стаў кандыдатам гістарычных навук. З 1982 года старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. У 1991-1994 гадах старшы навуковы супрацоўнік, загадчык аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. У1992 годзе абараніў доктарскую дысертацыю.

Генадзь Каханоўскі даследаваў развіццё археалогіі, музейнай справы, пытанні аховы помнікаў на Беларусі. Яго цікавіла ўсё, што датычылася роднай Маладзечаншчыны і Беларусі ў цэлым: нумізматыка, дарогі, кераміка, геральдыка, драўляная скульптура, легенды і паданні, успаміны старых людзей, рукапісы, даўнія дакументы і многае іншае.

Генадзь Каханоўскі пастаянна жыў у Маладзечне ў сваім доме. Дзевяць гадоў ён ад'ездзіў электрычкай у Мінск на працу ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Матэрыялы збіраў у архівах і бібліятэках, а апрацоўваў на каленях у электрычцы. За 9 гадоў наездзіў 360 000км.

Генадзя Каханоўскага добра ведаў мой аднакурснік па БДУ Іван Саламевіч, выдатны наш энцыклапедыст. Ён больш за 35 гадоў сябраваў з Генадзем, перапісваўся з ім, можа расказваць пра яго бясконца. Мог бы нават напісаць цэлую кнігу, калі ўдасца пажыць на гэтым свеце.

У артыкуле "Унікальны светлы талент" Іван Саламевіч піша: "Яго ўсе любілі. Гэтага высокаадукаванага, сціплага, інтэлігентнага, сумленнага, вельмі душэўнага чалавека. Мае энцыклапедычныя калегі-жанчыны пасля таго, як Генадзь заходзіў да нас у рэдакцыю, заўсёды падкрэслівалі, што цяпер, на жаль, мала такіх далікатных людзей, такіх аўтараў, якія згодны, калі трэба, дапрацоўваць матэрыял бясконца, дапаўняць, удакладняць, удасканальваць. Ён не заходзіў да мяне з пустымі рукамі. Ведаючы, што я ўвесь час дапрацоўваю свой слоўнік псеўданімаў, ён часта прыносіў "гасцінцы" – расшыфраваныя псеўданімы і крыптанімы нашых навукоўцаў, пісьменнікаў, публіцыстаў, журналістаў, прычым часта расшыфраваныя на падставе архіўных знаходак ( у архівах ён працаваць умеў і любіў) або інфармацыі саміх аўтараў, што вельмі каштоўна.

"Янка, - любіў ён гаварыць, калі даведваўся, што я раблю нешта, як ён лічыў, пабочнае, - кідай ты ўсё гэта часовае і працуй толькі над сваім слоўнікам, акрамя цябе гэтага пакуль ніхто не зробіць, а пасля цябе толькі гэта і застанецца". І падаваў нейкі невядомы мне псеўданім. Новае выданне "Слоўніка беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў" прысвячу светлай памяці Генадзя Каханоўскага – сябра, якога я шчыра любіў і люблю, таленавітага вучонага, шчырага руплііўца на роднай беларускай ніве."





У даследаваннях Генадзя многа спасылак на архівы. Ён добра ведаў не толькі беларускія архівы, але і архівы іншых гарадоў СССР, напрыклад, архівы Жытоміра, Архангельска, Арэнбурга, Петразаводска, Табольска, Казані і іншыя.

Пасля Генадзя Каханоўскага засталася багатая спадчына. Ён глыбока прааналізаваў уклад у навуку З. Даленгі-Хадакоўскага, Т.Нарбута, Я. і К. Тышкевічаў, А. Кіркора, У. Сыракомлі і іншых, а таксама такіх устаноў, як Віленскі музей старажытнасцяў, Віленская Археалагічная камісія, прыватнаўласніцкія музеі М.П. Румянцава ў Гомелі, Г.К. Яблонаўскай у маёнтку Сямятычы Гродзенскай губерні і інш. Асаблівае значэнне для гісторыкаў і краязнаўцаў мае манаграфія Генадзя Каханоўскага "Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI-XIX стст. (1984 г.)

Манаграфія Генадзя "Беларуская фалькларыстыка і эпоха феадалізму" (1989г) - грунтоўны ўклад вучонага ў гісторыю збірання і даследавання беларускай вуснапаэтычнай творчасці XVI-XIX стст.

Іван Саламевіч адзначае, што Каханоўскі "як вопытны музейшчык выдатна ведаў, што такое краязнаўчая работа, высока цаніў працу мясцовых падзвіжнікаў, якія, як і ён, руплілся і рупяцца, каб зберагчы мясцовыя помнікі і помнікі гісторыі і культуры, што адыгрываюць неацэнную ролю ў патрыятычным выхаванні, у самавыхаванні любові да роднага краю, роднай гісторыі. Таму так нястомна, упарта стараўся ён, каб аднавіць, арганізаваць Рэспубліканскае краязнаўчае таварыства. Вельмі многа нерваў патраціў, хваляванняў перажыў Генадзь, калі не ўдавалася прабіць глухую сцяну чыноўніцкага непаразумення і тупасці.

**Я добра яго ведаў, сустракаўся з ім у архівах і бібліятэках Мінска. Ён дапамагаў мне ў зборы матэрыялаў для раённай кнігі "Памяць".**

У 1989 годзе Генадзь Каханоўскі стаў старшынёй Беларускага краязнаўчага таварыства. На жаль, не здзейснілася яго мара адрадзіць часопіс "Наш край", які выходзіў з 1925 года як орган цэнтральнага бюро краязнаўчага таварыства.

Каб нашы людзі ведалі сваю мінуўшчыну, шанавалі сваіх слаўных сыноў і дачок, свае святыні і помнікі, Генадзь Каханоўскі паклаў шмат сіл і стараннаяў. Таму столькі высілкаў прыклаў ён, каб знайсці тую мясціну, дзе летам 1911 года адпачываў Максім Багдановіч. Ёю аказалася Ракуцёўшчына. Генадзь адкрыў яе ў 1965-1966 гг. Па яго ініцыятыве ў чэрвені 1977 года тут устаноўлены мемарыяльны знак са словамі: "У вёсцы Ракуцёўшчына ў 1911 годзе жыў і працаваў вядомы беларускі паэт Максім Багдановіч".

24 красавіка 1981 года беларускія пісьменнікі заклалі тут "Максімаў сад", а ў 1985 годзе каля крыніцы пастаўлены камень. На святах паэзіі, якія ў Ракуцёўшчыне адбываюцца штогод, трэба заўсёды з удзячнасцю ўспамінаць імя Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага.



У родным Маладзечне, дзякуючы клопатам і ўдзелу Генадзя, імёны нашых пісьменнікаў, грамадскіх і культурных дзеячаў былі нададзены вуліцам замест тых, хто да горада не меў ніякіх адносін.

У Радашковічах адкрыты мемарыяльны знак у памяць Ядвігіна Ш., у Люцынцы, дзе жыў В. Дунін-Марцінкевіч.

Генадзь Каханоўскі апублікаваў больш за 500 артыкулаў у энцыклапедыях. Іван Саламевіч, сам энцыклапедыст, заўважае: " Кожны, хто пісаў для энцыклапедыі, ведае, што для таго, каб напісаць туды нават маленькі артыкульчык, трэба шмат ведаць, перавярнуць горы літаратуры, архіўных дакументаў, сто разоў праверыць і пераправерыць розныя думкі, факты, меркаванні. Генадзь Каханоўскі рабіў гэта настойліва, бясстрашна, не шкадуючы сябе. Ведаў – гэта трэба для любай Беларусі".

Каханоўскі быў чалавекам энцыклапедычных ведаў. На любое самае складанае пытанне ён даваў глыбокі адказ ці раіў, дзе можна яго знайсці.

Я добра яго ведаў, сустракаўся з ім у архівах і бібліятэках Мінска. Ён дапамагаў мне ў зборы матэрыялаў для раённай кнігі "Памяць". Г. Каханоўскі выдатна ведаў архівы Мінска і Вільні, падказваў, у якіх архіўных фондах можна знайсці той ці іншы матэрыял. Апошні раз бачыў Генадзя Каханоўскага ў 1993годзе, на I З'ездзе Беларусаў Свету. Ён адчуваў сябе дрэнна, быў бледны. Расказваў, што перанёс некалькі аперацый на страўніку. Гаварыў, што хацеў бы пабываць у Германавіцкім музеі мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча, наведаць Браслаўшчыну, Міёры, старажытную Дзісну, магчыма, дабрацца да возера Ельня. Генадзь Аляксандравіч пабыў невялікі час на з'ездзе, развітаўся і паехаў дадому ў Маладзечна. Праз паўгода яго не стала. Памёр Генадзь Каханоўскі 15 студзеня 1994 года. Было яму тады ўсяго 58 гадоў.

Закончыць хачу зноў словамі Івана Саламевіча: "Генадзя Каханоўскага любілі ўсе. Было за што. Чэсць і слава Яму, слаўнаму, адданаму сыну нашага народа, руплівцу, беззапаветнаму шчыруну на полі роднай культуры, гісторыі, літаратуры, краязнаўства, музейнай справы, фалькларыстыкі і безлічы іншых дзялянак! І як балюча і горка, што ён так рана згарэў! Няхай светлы воблік незабыўнага Генадзя Каханоўскага натхняе нас на працу ў імя і гонар нашай Бацькаўшчыны, якую ён так горача любіў, у імя якой здзейсніў свой жыццёвы, свой навуковы подзвіг як патрыёт, шчыры беларус, грамадзянін!"



**Вёска Ракуцёўшчына. Музей-сядзіба Максіма Багдановіча.**

# Унікальны скарб X стагоддзя паказаны на выставе ў Мінску

**Выстава «Полацкі залаты скарб» адкрылася 19 студзеня ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі. У аснове экспазіцыі ўнікальны скарб X стагоддзя з фондаў Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.**

Як паведаміў на адкрыцці выставы дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Сяргей Вечар, скарб быў выпадкова знойдзены ў 1984 годзе на тэрыторыі Ніжняга замка ў Полацку падчас работ па добраўпарадкаванні горада. Скарб уяўляе сабою рэшткі залатых ювелірных упрыгожанняў эпохі вікінгаў і з'яўляецца пацвярджэннем гандлёвых сувязяў Полацка таго часу з краінамі Паўночнай Еўропы і Кіевам.



Паводле слоў міністра культуры Паўла Латушкі, выстава– адно з выніковых мерапрыемстваў рэспубліканскай акцыі «Культурная сталіца Беларусі». Акцыя стартавала ў пачатку 2010 года, першым статус культурнай сталіцы атрымаў Полацк, сёлета Гомель. У межах акцыі ў Полацку прайшло больш за 50 мерапрыемстваў: выставы, канцэрты, фестывалі, творчыя сустрэчы.

Паводле меркавання Латушкі, першая акцыя «Культурная сталіца» атрымалася дзякуючы сумесным намаганням палачан пры падтрымцы Міністэрства культуры, Віцебскага аблвыканкама і Полацкага гарвыканкама. Правядзенне акцыі, адзначыў ён, мае дзве мэты: паказаць, што кожны беларус незалежна ад месца жыхарства мае права далучацца да культурных каштоўнасцяў нароўні з жыхарамі сталіцы; садзейнічаць развіццю культуры ў рэгіёнах.

Выстава «Полацкі залаты скарб» будзе працаваць да 28 студзеня.

***Таццяна Дарашчонак, БелаПАН.***

## У Полацку з'явілася вуліца Грунвальдская

**У старажытнай сталіцы Полацкага княства з'явілася вуліца Грунвальдская.**

Яшчэ напрыканцы 2010 года такую назву атрымала адна з вуліц новага мікрараёна Полацка.

Нагадаем, што летам 2010 году ў горадзе Ліда з'явіўся бульвар Гедыміна.

# Падрыхтаваны прапановы аб абвяшчэнні 2011 года ў Беларусі Годам культуры і мовы

**Падрыхтаваны прапановы аб абвяшчэнні 2011 года ў Беларусі Годам культуры і мовы. Пра гэта гаворыцца ў адказе намесніка міністра культуры Тадэвуша Стружэцкага ад 21 студзеня на зварот старшыні Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны Алега Трусава.**

Гэты зварот ён накіраваў 29 верасня 2010 года ў грамадскую прыёмную на той час кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі.

У інтэрв`ю БелаПАН Трусаў выказаў задавальненне адказам Стружэцкага і надзею, што гэты год будзе абвешчаны Годам роднай культуры і мовы. Тым больш што ў гэтым годзе будуць адзначацца 120-я ўгодкі з дня народзінаў геніяльнага беларускага паэта Максіма Багдановіча, сказаў старшыня ТБМ.

Паводле яго слоў, рашэнне пра Год культуры і мовы паспрыяла б замацаванню беларускай мовы ва ўсіх сферах жыцця. Трусаў выказаў шчырую падзяку калектыву газеты «Звязда», які другі год займаецца пытаннем абвяшчэння года беларускай мовы.

На думку старшыні ТБМ, галоўнымі акцыямі Года культуры і мовы павінны стаць прыняцце папраўак у закон аб беларускай мове, каб ёй можна было карыстацца ва ўсіх сферах і каб ажыццявілася сапраўдная роўнасць дзвюх дзяржаўных моў, а таксама прыняцце закона альбо пастановы ўрада аб дзяржаўнай падтрымцы роднай мовы.

Паводле яго слоў, гаворка ідзе пра тое, каб на розныя праграмы ў падтрымку беларускай мовы дзяржава выдзяляла грошы, давала гранты, абвяшчала конкурсы. ТБМ зараз працуе над канцэпцыяй праекта гэтага нарматыўнага акта, якая будзе разгледжана на пасяджэнні рады таварыства 30 студзеня.

***Марат Гаравы, БелаПАН.***

**Маскоўская кампанія «Руская традыцыя» набыла з аўкцыёну ў Пастаўскім раёне помнік архітэктуры – сядзібу Бішэўскіх у мястэчку Лынтупы, пабудаваную ў XIX стагоддзі для французскай акторкі.**

# Расійскі інвестар купіў «дваранскае гняздо» ў Беларусі

У склад сядзібна-паркавага комплексу ўваходзяць: сядзібны дом, гаспадарчыя пабудовы, бутавы мост, парк, капліца, тры сажалкі. Маскоўская кампанія «Руская традыцыя» для рэалізацыі праекта стварыла таварыства з абмежаванай адказнасцю. На працягу трох гадоў тут плануецца стварыць культурна-аздараўленчы комплекс. Пры гэтым фундатар узяў на сябе абавязкі захаваць гэты помнік, уключаны ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў, паведамілі БЕЛТА ў аддзеле культуры Пастаўскага райвыканкама.

Паводле падання, шляхціч Юзаф Бішэўскі пабудаваў асабняк для сваёй каханай – французскай акторкі. Ці пабывала яна ў асабняку – невядома, але тое, што ніводны з пакояў у палацы не быў падобны на іншы, а аздоба здзіўляла багаццем – захавалася ў легендах дагэтуль. Таямніцамі авеяныя падвалы гэтага палаца, па чутках, там дагэтуль знаходзяцца незлічоныя скарбы Бішэўскіх.

Па меркаванні спецыялістаў, без удзелу фундатараў захаваць для нашчадкаў гэты найцікавейшы помнік не ўяўляецца магчымым. Спроба яго рэстаўрацыі прадпрымалася ў 1991 годзе, аднак з-за адсутнасці сродкаў працы спыніліся. Помнік паступова руйнаваўся, да яго нават не вазілі экскурсантаў. Зараз гэты аб'ект будзе ўключаны ў культурную прастору, упэўненыя спецыялісты. Акрамя таго, фундатар мае намер стварыць тут працоўныя месцы.

У наш час чакаюць сваіх фундатараў яшчэ 8 сядзібаў і палацава-паркавых ансамбляў у Верхнядзвінскім, Бешанковіцкім і Браслаўскім раёнах.



Сядзіба Бішэўскіх у мястэчку Лынтупы. Паштоўка 1910-ых гг.

## 21 студзеня ў Глыбокім адбылася прэзентацыя новых кніг Алега Латышонка

21 студзеня ў Глыбокім адбылася прэзентацыя новых кніг Алега Латышонка. На прэзентацыі былі прадстаўлены перавыдадзеныя "Жаўнеры БНР", "Нацыянальнасьць -- беларус", "Гісторыя Беларусі ад сярэдзіны 18 і да пачатку 21 стагодзьдзя", "Беласток-Полацак". Акрамя кніг Алега Латышонка можна было набыць новыя часопісы "ARCHE", кнігі Адама Станкевіча, Марка Вітушкі, іншых аўтараў.


Алег Латышонак

На прэзентацыі прысутнічала 15 чалавек. З гасцей, акрамя гісторыка Алега Латышонка, прысутнічалі выдавец, рэдактар часопіса "ARCHE" Валер Булгакаў і прадстаўнік Віленскай арганізацыі ТБМ Юрась Юркевіч.

***Паводле Westki.info***

# Беатыфікацыя Яна Паўла II адбудзецца 1 траўня

14 студзеня Святы Айцец Бэнэдыкт XVI прыняў на аўдыенцыі прэфекта Кангрэгацыі па справах Kанaнізацыі кардынала Анджэло Амато. Святы Айцец падпісаў падрыхтаваны ведамствам дэкрэт аб сапраўднасці цудоўнага аздараўлення французскай законніцы с. Марыі-Сімоне Норман, якое прыпісвалася заступніцтву Яна Паўла II.

Як паінфармаваў кіраўнік Прэс-службы Апостальскай Сталіцы кс. Фэдэрыко Ламбардзі SI, беатыфікацыя Яна Паўла II адбудзецца ў Ватыкане 1 мая 2011 г., у Нядзелю Божай Міласэрнасці. Урачыстую цырымонію ўзначаліць папа Бэнэдыкт XVI.

# Хрышчэнскія купанні становяца традыцыйнымі



На возеры Бяглец у Глыбокім.

■ Яўген Самсонаў

**Хрысціяне лічаць, што завяршальнае каляднае свята – Вадохрышча, адпавядае дню хрышчэння Ісуса Хрыста Іаанам Хрысціцелем на рацэ Ярдані.**

Апошнім часам з кожным годам гэта свята становіцца на Глыбоччыне ўсё больш масавым. Апроч асвячэння вады ў храмах, знаходзяцца шмат аматараў акунуцца ў палонцы, бо ў гэты дзень, паводле падання, уся вада лічыцца цудадзейнай.

Характэрна, што, акунуўшыся аднойчы, чалавек штогод прытрымліваецца гэтай традыцыі. Больш таго, падбухторвае такім чынам ачысціцца ад грахоў і хвароб сваіх сваякоў і сяброў.

Вось ужо які год запар на Вадохрышча аўтар гэтых радкоў наведвае крыніцу Святога Іаана Хрысціцеля паблізу вёскі Чарневічы. А як цяпер там цудоўна! І ўсё гэтае хараство існуе дзякуючы намаганням і залатым рукам Алега Вайцяховіча з вёскі Язна і значным грашовым ахвяраванням Васіля Лукашэвіча з вёскі Завуцце Мёрскага раёна. Звыш 50 рэйсаў на розныя адлегласці прышлося зрабіць Алегу на ўласным трактарку, каб здзейсніць задуманае. Не засталіся ў баку і вернікі мясцовага прыходу. Дапамагалі чым маглі, за што і ім вялікі дзякуй.

А вось дарожнікі трохі азмрочылі настрой. Цяжка, вельмі цяжка было размінуцца машынам на вузкарасчышчанай дарозе. Можна ж было праз колькі дзясяткаў метраў зрабіць "карманчыкі", каб была магчымасць саступіць дарогу. А з боку Мёрскага раёна снежныя суméты увогуле не былі рассунутыя.



На крыніцы Св. Іаана Хрысціцеля каля Чарневічаў.


Айцец Сергій з прыхаджанамі, злева Алег Вайцяховіч.

# Міздар: пандэміі свінога грыпу ў Беларусі не чакаецца

**Пандэміі свінога грыпу ў Беларусі не чакаецца. Пра гэта заявіў падчас online-канферэнцыі на сайце БЕЛТА намеснік міністра аховы здароўя – галоўны дзяржаўны санітарны ўрач Беларусі Алег Арнаутаў.**

Па дадзеных праведзенага ў Беларусі вірусалагічнага маніторынгу, абсалютная большасць вірусаў, якія цяпер выклікаюць рэспіраторныя вірусныя інфекцыі, не адносяцца да грыпозных. За мінулы тыдзень вірус грыпу быў выяўлены толькі ў 10% усіх даследаваных проб. Пры гэтым у структуры вірусаў пераважаў сератып віруса грыпу В, рэгістраваўся таксама сезонны вірус грыпу А. Вірусы пандэмічнага грыпу выяўляліся ў адзінкавых выпадках.

«Сітуацыя па грыпе ў Беларусі падобная з сітуацыяй, якая складаецца на Украіне, некаторых краінах Заходняй Еўропы. Сёння цыркулююць тыя тыпы вірусу грыпу, якія мы прагназавалі, яны ж закладзены ў вакцыны», – сказаў Алег Арнаутаў.

Па яго меркаванні, у наш час няма перадумоў для паўтору сітуацыі, калі грамадства ахапіла паніка з-за распаўсюду «свінога» грыпу. «Летась эпідэмічны працэс развіваўся па тыпе пандэміі. З'явіўся вірус A/H1N1, які працяглы час не цыркуляваў. У людзей не было імунітэту, была высокая інтэнсіўнасць эпідэмічнага працэсу», – растлумачыў спецыяліст. Цяпер, па яго словах, вірус «свінога» грыпу працягвае цыркуляваць як сезонны разам з іншымі вірусамі, але ўжо не з'яўляецца пераважным і не выклікае захворванне з ранейшай інтэнсіўнасцю.

Алег Арнаутаў аспрэчыў меркаванне пра тое, што пагодныя ўмовы ўплываюць на распаўсюд ВРВІ і грыпу. «Як эпідэміёлаг магу сцвярджаць, што гэта распаўсюджаная памылка з разраду таго, што панацэяй ад грыпу з'яўляюцца цыбуля ці часнок», – сказаў ён. Вірус жыве толькі ў арганізме чалавека і хутка гіне, трапляючы ў навакольнае асяроддзе, асабліва на вуліцы, нават пры плюсавай тэмпературы.

*БелТА*

# Для папярэджання крадзяжоў мабільных тэлефонаў Генпракуратура прапаноўвае стварыць адзіны рэестр іх ідэнтыфікацыйных нумароў

**Генеральная пракуратура Беларусі выступае за стварэнне адзінага рэестра ідэнтыфікацыйных нумароў мабільных тэлефонаў. Гэта «станоўча паўплывае на работу па папярэджанні крадзяжоў апаратаў сотавай сувязі і абароту шэрых тэлефонаў», гаворыцца ў паведамленні на сайце галоўнага нагляднага ведамства краіны.**

У Генпракуратуры адзначаюць, што гэтае пытанне абмяркоўваецца ў Расіі і Казахстане, якія з'яўляюцца членамі Мытнага саюза. Не выключана, што па выніках сумеснага абмеркавання будзе прынята рашэнне аб стварэнні і эксплуатацыі адзінай базы IMEI-кодаў мабільных тэлефонаў.

Аналіз стану злачыннасці ў Беларусі сведчыць, што колькасць злачынстваў, звязаных з крадзяжом мабільных тэлефонаў, за апошнія тры гады знізілася з 32.004 у 2007 годзе да 15.812 у 2010 годзе, гэта значыць, у два разы.

У Генпракуратуры ўказваюць, што дабіцца такога выніку ўдалося за кошт правядзення органамі пракуратуры і ўнутраных спраў работы па папярэджанні крадзяжоў мабільных тэлефонаў, раскрыцці злачынстваў і павышэнні якасці іх расследавання. Значны ўклад у прафілактыку крадзяжоў унеслі самі грамадзяне, карыстальнікі мабільных тэлефонаў, якія сталі з большай адказнасцю ставіцца да захаванасці сваёй маёмасці і пазбягаць куплі так званых шэрых тэлефонаў.

«Названыя вынікі сталі магчымымі дзякуючы актыўнаму супрацоўніцтву з праваахоўнымі органамі апаратараў мабільнай сотавай сувязі, якія выяўляюць у сваіх сетках выкрадзеныя тэлефоны і прыпыняюць іх работу. Апаратары сотавай сувязі больш чым у два разы павялічылі рэалізацыю мабільных тэлефонаў праз сваю тавараправодную сетку, чым пазбавілі прадаўцоў шэрых і выкрадзеных мабільных магчымасці распаўсюджвання такіх тэлефонаў», гаворыцца ў паведамленні Генпракуратуры.

Асаблівая ўвага ў прафілактыцы крадзяжоў мабільных тэлефонаў была надазена выкараненню ўмоў, якія садзейнічаюць учыненню злачынстваў, адным з якіх з'яўляецца беспакараная дзейнасць асоб, што займаюцца незаконнай перапрашыўкай (зменненем праграм і IMEI-нумароў тэлефонаў). Калі ў 2008 годзе ў краіне па ініцыятыве Генпракуратуры на падставе арт. 350 КК (мадыфікацыя камп'ютарнай інфармацыі) былі распачаты толькі дзве крымінальныя справы, то ў 2010 годзе – 13 (з іх восем ужо накіравана ў суд). Цяпер міліцыя правярае замешанасць ва ўчыненні такіх злачынстваў юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў, якія маюць дазвол на рэалізацыю, рамонт і абслугоўванне мабільных тэлефонаў, праз якія, верагодней за ўсё, ажыццяўляецца незаконны абарот выкрадзеных і шэрых тэлефонаў.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# Віншаванкі

Валянціну Альбінаўну Гарачка

**Віншуем з Днём нараджэння!**

В этот праздничный день юбилейный
От души пожелать Вам хотим,
Чтобы жизнь была красочной, светлой,
Каждый день был бы неповторим!
Мы желаем Вам счастья, здоровья,
Новых праздников, новых побед,
Жить с надеждою, верой, любовью
Много долгих и радостных лет!

*Галя, Лена і яе сям'я.*

Вольгу Сауліч

**Віншую з Днём нараджэння!**

Сегодня день – обычный день.
В нём было утро, будет вечер.
Но этот ясный, светлый день
Судьбою для тебя отмечен!
И много лет прошло с тех пор,
Как крик твой над землёю взвился,
И сразу всех оповестил о том,
Что человек родился.
И вот сегодня, в праздник твой,
Тебя сердечно поздравляю,
Здоровья крепкого тебе,
Любви и счастья личного желаю!

*Аляксандр.*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"



31 студзеня – 6 лютага 2011 г.















Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Выразна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 300 рублёў.

Абвестка тлустым шрыфтам да 5 слоў – 3000 рублёў. Кожнае далейшае дадатковае слова – 400 рублёў.

Між тым, парадак прыёму прыватных абвестак у месцах продажу нашай газеты – нязменны.











## ПАНЯДЗЕЛАК, 31 студзеня




**06.00**, **07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 22.50** Новости.
**06.05**, **07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!».
**06.45** Nota Bene.
**07.05**, **08.10** Зона Х.
**07.30**, **08.25, 11.55** Деловая жизнь.
**08.30** «В мире моторов».
**09.10** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Мой муж-маменькин сынок».
**10.05** Здоровье.
**10.35** Культурные люди.
**11.05 «Затмение»**
**12.10** Приключенческий фильм **«Воображариум доктора Парнаса»**
**14.15** Документальный цикл «Неизвестная версия». «Самая обаятельная и привлекательная»
**15.15**, **19.15** Новости региона.
**15.40** «OFF STAGE LIFE»
**16.05** Nota Bene.
**16.30 «Маршрут милосердия»**
**17.20 «Затмение»**
**18.25** «Окно в Европу».
**18.50**, **00.35** «Зона Х».
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Ответный ход.
**21.00** «Панорама».
**21.45 «Обмани меня»**
**23.00** Боевик **«Хранитель»**
**00.45** День спорта.




**06.00**, **09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10 «Моя жена меня приворожила»**.
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Смак».
**11.50 «Папа на все руки»**.
**12.20** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать» с Михаилом Ширвиндтом.
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**. Многосерийный фильм.
**17.05 «Слово женщине»**. Многосерийный фильм.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Смех сквозь слезы. Из истории рабоче-крестьянской сатиры».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** ОНТ представляет: Ток-шоу «Открытый формат».
**22.05** «Голоса».
**23.05** Наши новости.
**23.20** Новости спорта.
**23.25** «Борис Краснов. Без прикрас».
**00.25 «Виола Тараканова. В мире преступных страстей»**.
**01.15-01.35** Ночные новости.




**06.35** Молодежный комедийный сериал **«Универ»** (Россия).
**07.00** ЛАДное утро.
**08.00** Телебарометр.
**08.05** Детективный сериал **«Чисто английские убийства»**
**08.55** Мелодраматический сериал **«Ты моя жизнь»** (Аргентина).
**10.00** Приключенческий фильм-фэнтези **«Русичи»** (Россия).
**11.40** Пра мастацтва.
**12.10** Школа ремонта.
**13.10** Премьера. Приключенческая мелодрама **«Земля света»** . 1-я серия.
**14.10** Сериал **«Сила притяжения»**
**15.05** Мультсериал **«Семейка пиратов»**
**15.30** Внеклассный час.
**15.45** Телебарометр.
**16.05** Детективный сериал **«Налетчики»**
**16.55** Детективный сериал **«Чисто английские убийства»**
**18.00** Мелодраматический сериал **«Ты моя жизнь»** (Аргентина).
**19.05** Киноповесть **«Дело было в Пенькове»**
**20.55** Калыханка.
**21.10** Телебарометр.
**21.15** Белорусское времечко.
**22.15** Комедийный сериал **«Интерны»**
**22.50** Молодежный комедийный сериал **«Универ»** (Россия).
**23.25** Овертайм.
**23.55** Детективный сериал **«Налетчики»**




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Держи меня крепче».Теленовелла.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом «Секретно»: «Клиническая смерть. Путешествие души».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг». Андрей Морган против группы «AURA».
**15.00** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** СТВ представляет: «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Взрослые игры»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.35** «Кинопонедельник»: Алексей Кортнев, Владимир Капустин и Ирма Витовская в фильме **«ДОЧЕНЬКА МОЯ»**. Украина, 2008г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичный футбол».
**23.25** «Кино»: Леонардо ДиКаприо, Роберт Де Ниро и Эллен Баркин в фильме **«ЖИЗНЬ ЭТОГО ПАРНЯ»**.




**07:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**07:30** Прэс-экспрэс
**07:45** Эксперт
**08:05** ПраСвет
**08:30** Басанож па свеце : «Штодзённае жыццё індзейцаў»
**08:55** Рэмарка
**09:05** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Кірыла Тураўскі»
**09:20** Дакументальная гадзіна: «Франка: на варце Захаду», дак. фільм, рэж. Хаўмэ Сэра 2006 г., Іспанія
**10:20** Фільматэка майстроў:**«Мядзведзік»**,
**12:00** Аб'ектыў
**12:05** Прэс-экспрэс
**12:20** Эксперт
**12:40** ПраСвет
**13:05** Басанож па свеце : «Штодзённае жыццё індзейцаў»
**13:30** Рэмарка
**13:50** Гісторыя пад знакам Пагоні : «Люблінская унія»
**14:05** Дакументальная гадзіна: «Франка: на варце Захаду», дак. фільм, рэж. Хаўмэ Сэра (Jaume Serra), 2006 г., Іспанія
**15:05** Фільматэка майстроў:**«Мядзведзік»**
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 «Мой родны горад»**, серыял: 26 с
**17:30 «Час гонару»**, серыял: 14 серыя
**18:20** Невядомая Беларусь: «Атамны полк», дак. фільм, рэж. Зоя Катовіч, 2009 г., Польшча-Беларусь
**18:50** Госць «Белсату»
**19:10** Прэс-экспрэс
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:55** Еўропа сёння
**20:25** «Беларускі лес», дак. фільм, 2008 г., Беларусь
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Прыватная калекцыя
**21:55** Фільматэка майстроў: **«Мядзведзік»**, маст. Фільм
**23:35** Аб'ектыў
**23:55** Гарачы каментар

## СЕРАДА, 31 студзеня

